## Хто возьмецца адэкватна адказаць на новую сытуацыю

Старшыня абласной філіі Беларускага Народнага Фронта Анатоль Фёдараў днямі знаходзіўся ў Варшаве, дзе сустрэўся з кандыдатам у прэзыдэнты Зянонам Пазьняком. А дома яго чакала позва да сьледчага Цэнтральнага райаддзела міліцыі. Як вядома, у адсутнасьць спадара А.Фёдарава офіс мясцовай управы БНФ наведвалі, дарэчы, трэці раз за апошні месяц супрацоўнікі «адпаведных органаў». Гутарка ў міліцыі пакуль завяршылася мірна, але сьледчы, які выконвае «мерапрыемствы ў сувязі з распачатай ў Менску крымінальнай справай Віктара Ганчара», папярэдзіў, што выклікі сп. Фёдарава як кіраўніка ўплывовай палітычнай структуры, якая актыўна спрычынілася да арганізацыі прэзыдэнцкіх выбараў, могуць быць працягнутымі.

Тым часам нашаму карэспандэнту сп. Фёдараў паведаміў, што ягоная варшаўская паездка мела на мэце кансультацыю зь Зянонам Пазьняком менавіта на выбарчую тэму. Справа ў тым, што Фронт цяпер раздумвае аб маральным баку травеньскіх выбараў у сувязі з тым, што другі рэальны прэтэндэнт на прэзыдэнцкую пасаду – Міхаіл Чыгір арыштаваны і будзе ўтрымвацца за кратамі як меней да ліпеня (калі выбары мусяць ужо адбыцца). Ці прыстойна ў такіх варунках праводзіць іх наогул? Ці не аслабіць самую выбарчую арганізацыйную і прапагандысцкую работу магчымы адыход ад яе (з той-жа прычыны) паплечнікаў закратаванага кандыдата? Як паставяцца эўрапейскія палітычныя і дзяржаўныя структуры да згубы ў такім разе самой мажлівасьці цывілізаванага вырашэньня беларускага «канстытуцыйнага тупіку», якую прадастаўлялі выбары?..

Пытаньняў – няпростых пытаньняў – нямала. Пакуль рана казаць, якое-ж рашэньне будзе ўрэшце прынятае беларускай апазыцыяй. Зараз ідуць міжпартыйныя кансультацыі на гэты конт. Выбарчы вэктар застаецца на гэты час прыярытэтным... А значыць і візыта мясцовага фронтаўскага лідэра да сьледчага сапраўды ня стане (хоць і варта пастукаць па дрэву) апошняй.

***Уласная Інфармацыя***

## Памяць: Імгненьні й Час

**З фотаархіва © «ТМ»**




*Магілёў. 26 красавіка 1997 года. Жалобнае шэсьце да памятнага Крыжа, усталяванага ў гонар загінуўшых па Чарнобыльскай аварыі.*

*Сельскі беларускі краявід пасьля катастрофы. У многіх месцах — і па сёньня...*



## КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

**Дошкі аб'яваў, рэклямныя шчыты і нават пад'езды дамоў** у тых выбарчых акругаў, якія не далі «вынікаў» падчас мясцовых выбараў, заклееныя гэтымі днямі запрашэньнямі прагаласаваць ... на два дні раней тэрміну, вызначанага законам. Такое рашэньне прыняў Цэнтравыбаркам. Яго можна зразумець. У нядзелю, калі другі тур выбараў мусіў адбыцца па закону, будзе вельмі відавочна, што галасуючых на выбарчых участках няма – людзі засумавалі па сваіх палетках і іх не ўтрымаць. Па-другое, засталіся нейкія там «недабраныя» па 3–5 дэпутатаў – няма чаго цырымоніцца з законам. А «нефармальным падыходам» да закону яшчэ й эканомяцца дзяржаўныя сродкі. Зараз яны патрэбныя на сяўбу, а не на розныя там «волевыяўленьні», вынік якіх несумненна вядомы – каму трэба! – наперад.

**Круглянскі райвыканкам падвёў вынікі працы** са зваротамі і скаргамі грамадзянаў. За першы квартал года ў адміністрацыю раёна зьвярталіся 122 чалавекі. Кожны чацьверты зь іх прасіў райвыканкам аб непасрэднай грашовай дапамозе.

**За першы тыдзень красавіка шклоўская міліцыя зарэгістравала** 17 бытавых злачынстваў. Усе яны – крадзяжы. Попытам у дробных злачынцаў карысталася ўсё: ад ровара, прыхіленага на хвіліну да паркана, харчовых прыпасаў, пакінутых у лядоўні пры зачыненай хаце да тэлефоннага апарату ў канторы падчас абедзенага перапынку і раптоўна зьнікшага з гаспадарчага двара трактарнага прычэпу.

**У большасьці раёнаў пачалася перадача вясковых фэльчарска-акушэрскіх пунктаў** з падведамаснасьці сельсаветаў – раённым бальніцам, а вясковых дзіцячых садкоў – райаддзелу адукацыі. Якім бы ні было тлумачэньне (яно зводзіцца да эканамічных прычынаў), акцыя азначае толькі адно: улада паступова і настойліва ўсё прыбірае да сваіх рук.

**Чавускі масласыраробчы завод абвесьціў фінансовыя вынікі** папярэдняга года. Самай стратнай аказалася вытворчасьць масла. Не даюць прыбыткаў сьмятана, тварог і малако. Выратавальнымі сталіся толькі вытворчасьці па вырабу казэіну, йогурту і глазураваных сыркоў.

**Нават паводка не перашкодзіла 20 жыхарам двух маленькіх вёсачак** на беразе Віхры зьдзейсьніць «грамадзянскі абавязак». Адрэзаных вадой ад Лютнянскага сельсавета жыхароў выратаваў тутэйшы 78-мі гадовы знаўца ракі (гэта асабліва падкрэсьліла мясцовая газэта). Ён даставіў на сваёй лодцы сябраў выбарчай камісіі на другі бераг і адвёз іх, пасьля абыходу з выбарчай скрыняй жыхароў, назад. Шкада толькі, што выбары па сельсавету вынікаў не далі, бо ніводзін з двух кандыдатаў патрэбных галасоў не набраў.



**На намесьнікаў старшыняў калгасаў па інфармацыйнай рабоце** – такая штатная (!) пасада ўведзеная ў калектыўных гаспадарках нядаўна – зараз ускладаецца задача «агітацыйна-прапагандысцкага забесьпячэньня» распачатай пасяўной кампаніі. Іх натхнёнае слова заклікана замяніць недахоп насеньня, угнаеньняў, запчастак і паліва.

***Інфармацыйная служба «ТМ»***

КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

## КРЫЧАЎСКІЯ ВЕСТКІ

### Хто сапраўдны аўтар «народнага» настрою?

Усё гэта пачалося, калі я ды мая сястра пачалі зьбіраць подпісы за рэгістрацыю кандыдатам у прэзыдэнты нашай краіны Міхаіла Чыгіра. Нашыя суседзі, у асноўным пажылыя людзі, адмоўна паставіліся да нашай дзейнасьці. Наслухаўшыся хлусьні, якая стала звычайнай зьявай у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, яны пачалі называць збор подпісаў злачынным. Некаторыя пайшлі далей. Яны пісалі ўлёткі і разьвешвалі іх на відных месцах. Вось поўны тэкст адной зь іх (цытуем на мове арыгіналу): «Людзи! Будте верны нашему А.Г. Лукашенко. Не идите на обман который делает Светик Людмила. Это семья БНФ и она ходит подписи собирает за БНФ Чигира который наш враг, как и эта семья, которым нет места в Кричеве. Смотрите сколько эти бандеры похители наших денег. Этим бандерам место за решеткой вместе со Светиками».

Па горадзе ўзмоцнена распаўсюджваліся чуткі аб вялікіх далярах, якія мы атрымалі за збор подпісаў, аб тым, что нас ужо ледзь не пасадзілі за краты. Нашая сям'я такім чынам паспытала «смак» сталінскіх часоў, калі ўладутрымаючыя з дапамогай татальнай прапаганды, рукамі простых людзей зьнішчалі ўсіх, хто думаў інакш.

### Перабоі зь белым хлебам

Ужо два тыдні ў Крычаве назіраюцца перабоі зь белым хлебам. Гэтую сытуацыю прадаўцы ў крамах тлумачаць адсутнасьцю мукі на мясцовым хлебазаводзе. Але-ж прыватныя пекары знаходзяць неабходную сыравіну, пякуць хлеб і маюць прыбытак.

### Крычаў так і застаўся безь мясцовага тэлебачаньня

У сакавіку мінулага году прыватнае прадпрыемства «Чістар» занялося ў нас стварэньнем мясцовай тэлеэфірнай сеткі. Згода на гэта была атрыманая ад усіх інстанцыяў. Прадпрыемства заключыла зь іншымі партнэрамі дамовы, скарыстала грошы на праект, набыло адпаведнае абсталяваньне.

Але адкрыцьця свайго тэлебачаньня не атрымалася. Яго забараніла намесьніца старшыні райвыканкама, яна-ж сакратар гаркама КПБ Зінаіда Скачкова. Яна дамаглася таго, што міністэрства сувязі анулявала сваю ліцэнзію прадпрыемству «Чістар». У спрэчцы з ідэйнай начальніцай не дапамаглі ніякія аргумэнты. Яе ня ўразіла нават тое, што ўжо быў сабраны працоўны калектыў, які цяпер давядзецца выстаўляць на вуліцу. Галоўным для яе засталося тое, што «непадначаленае» тэлебачаньне ўяўляе сабой пэўную небясьпеку для ўлады.

### Чарговая ахвяра

Днямі адміністратыўная камісія райвыканкаму вынесла пакараньне навучэнке ПТВ Сьвятлане Жэрабілавай па артыкулу 167 адміністратыўнага кодэксу. Яе працу па збору подпісаў за М.Чыгіра камісія ацаніла ў адзін мінімальны заробак. Разгляд справы доўжыўся амаль гадзіну. Сябры камісіі ня столькі высьвятлялі акалічнасьці «парушэньня», колькі «выхоўвалі» дзяўчыну. Яе абражалі тым, што яна прадалася Захаду, што хутка ёй застанецца толькі адно выйсьце: прасіць палітычнага прытулку ў Польшчы ці Нямеччыне... Дзяўчына выйшла з паседжаньня камісіі яшчэ больш упэўненая ў тым, што краіне патрэбныя дэмакратычныя, цывілізаваныя перамены.

***Лявон СЬВЕЦІК, грамадзкі карэспандэнт «ТМ»***

